# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1970
Травень-
Чэрвень

Год XVIII
№ 3 (120)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1970 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**

**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**

**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave, Toronto, Ont. 560 Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

**УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.**


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XVIII** **May—June** **№ 3 (120)**

**1970**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XVIII ТРАВЕНЬ—ЧЭРВЕНЬ 1970 № 3 (120)

# „Сьцеражыце вашу спадчыну!“

## (З прамовы Кардынала Мітрапаліта Язэпа Сьліпога)

Тут падаём некалькі важнейшых думак, якія мы запамяталі з казаньня Дастойнага Гасьця ў часе сьв. Літургіі ў Марыян Гауз 12. V. 1970.

Цяпер перажываем Вялікодны час. Хрысьціяне ўсюды стараюцца ўрачыста сьвяткаваць, нават там, дзе забараняецца: у турмах,




лягерах і на прымусовай працы. Чаму так? Бо гэта ёсьць Сьвята радасьці, якое дае духовую сілу ў цяжкасьцях жыцьця. Вялікдзень — гэта Сьвята перамогі над злом, увакрасеннньне ад сьмерці да лепшага жыцьця. Кажны чалавек ідзе праз сваё жыцьцё да радасьці дарогаю крыжа-цярпеньня. Так і Сам Хрыстос прайшоў яе аж да ганебнай сьмерці, а пасьля ўваскрос. «Калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не замрэ, то астанецца адно, а калі замрэ, то дасьць багаты плён» (Ян 12, 24). Так і Хрыстовая Царква была прасьледавана ад пачатку да 313 г.

І цяпер ваш беларускі народ і наш украінскі праходзяць праз цярпеньні. Каталіцкая Царква церпіць: біскупы, многія сьвятары і вернікі скончылі жыцьцё ў турмах, лягерах; а некаторыя і дасюль там прабываюць. Мой папярэднік, Мітрапаліт А. Шэптыцкі, вельмі рупіўся на пачатку вайны, каб абясьпечыць існаваньне Каталіцкае Царквы на Беларусі і Украіне. Дзеля таго з дазволу Апостальскага Пасаду назначыў новых Эгзархаў — для беларусаў а. Неманцэвіча, але гэты — з Божае волі — сам стаў ахвярай і быў замучаны. Аднак-жа беларуская ерархія ня спыняецца: маеце Біскупа Чэслава Сіповіча.

Ваш народ мае багатую гісторыю, традыцыю і культуру. Калісьці Беларусь і Украіна станавілі вялікую царкоўную Мітраполію. Аднак на Беларусі народ ня можа свабодна берагчы і павялічваць сваю вялікую спадчыну. Дзеля таго вы тут на Захадзе павінны рупіцца пра гэта: зьбіраць старанна ўсё, што становіць культуру вашага народу. Вашае заданьне прыгатаваць тут усё патрэбнае для адраджэньня народу і самым шыкавацца да прышлай працы між сваімі ў сваім краю, каб пайсьці туды адразу, як Бог на гэта пазволіць. А мы верым, што гэта станецца напэўна і Бог пазволіць, каб беларускі народ — пасьля столькіх цярпеньняў — дачакаў лепшае будучыні.

А я вельмі міла тут чуюся сярод вас у вашай невялікай, але прытульнай капліцы. Хай добры Бог багаславіць вас у вашай працы!

*а. Т. Падзява.*

# Сёмуха

*«Калі зыйшоўшы памяшаў языкі — Найвышэйшы падзяліў народы; калі-ж раздаваў агнявыя языкі, ўсіх паклікаў да еднасьці і згодна славім Усесьвятога Духа»* (Кандак на Сёмуху).

Існаваньне розных моваў і народаў мусіць быць ужо само па сабе добрым, калі Сам Бог гэта стварыў, а таксама і ўсю багатую і прыгожую рознастайнасьць у сьвеце. І сьвет быў-бы куды менш прыгожы, каб, скажам, у ім існавалі краскі або птушкі аднаго толькі, хоцьбы і найпрыгажэйшага, гатунку, напрыклад, ружы ці ліліі або салаўі. Або калі-б замест розных музычных інструмантаў была толькі адна скрыпка, або — ня дай, Божа! — барабан. А так, дык у вялікай аркестры й барабан грае прыгожа.

Таму, заклікаючы ўсіх да злучэньня, Сьвяты Дух ня толькі ня меў на мэце зьменшыць багацьце розных чалавечых культураў, але цудоўна імі апякуецца, каб нічога ня траціла са свайго прыроднага харастваў у гістарычным хрысьціянстве, якое з Божае волі мае быць а д н о . Якраз на Беларусі спатыкаюцца два вялікія напрамкі хрысьціянства — Усход і Захад, і мы можам бачыць, як Сьвяты Дух захоўвае ўсё культурнае багацьце ў той рознароднасьці, якую Ён Сам стварыў, калі людзі ў сваей злосьці і дурноце не перашкаджаюць Яму.

На Усходзе ўсе народы выводзілі свой пачатак кажны ад аднаго роду, напр., жыды — ад Абрагама. Дзяржаўным ладам усюды была тэакрацыя. Японцы ўважаюць свайго імпэратара за патомка багіні сонца Аматэрасу Оомікамі. Нядаўна гэтая дынастыя сьвяткавала 26 стагодзьдзяў свайго існаваньня! Таму на Ўсходзе так лёгка мог запанаваць дэспатызм і ня было ўмоваў для разьвіцьця чалавечае асобы. А заходні індывідуалізм ня толькі іх ня цікавіць, але выдаецца ім антыпатычным. Затое яны добра разумеюць патрэбу супольнасьці, сяброўства, хаўрусу й гэта іх уцягвае.

Зусім інакш фармаваўся характар чалавека на Захадзе. Тут дзяржаўны лад паўставаў навокал дружынаў. Напрыклад, Рым заснавала банда разбойнікаў. Таму на Захадзе шмат значыла чалавечая адзінка, яе характар, рашучасьць, ініцыятыва. Тут стварыліся карысныя ўмовіны дзеля ўзгадваньня людзкой асобы.

Каб убачыць на прыкладзе, як гэтыя розьніцы характару праяўляюцца ў рэлігійным жыцьці, возьмем найважнейшае таінства — Хрост. На Захадзе сьвятар кажа: «Я цябе хрышчу . . . » Тут выразна падкрэсьлена асоба сьвятара. А на Ўсходзе сьвятар кажа: «Хрысьціцца слуга Божы . . . ».

Дух Сьвяты, які даў апосталам дар моваў (пад сымбалем агнявых языкоў), каб маглі навучаць людзей у іхняй мове, дык таксама навучыў іх выясьняць праўды веры спосабам найбольш зразумелым, а тым самым і найкарысьнейшым.

*

Другім прыкладам хай паслужа «Сёмуха». Так народ азначыў вялікае Сьвята, якое выпадае ў сёмую нядзелю па Вялікадні. Тады Дух Сьвяты абʼявіўся апосталам пад вонкавымі знакамі магутнага ветру і агнявых языкоў. Дык вось на Ўсходзе хрысьціяне былі захоплены ў першую чаргу тым, што Бог ня ёсьць «адзінокім індывідуалістам», як думалі аб Ім да прыходу на сьвет Божага Сына, а зьяўляецца супольнасьцяй — «калектывам» Трох Асобаў! Тайна Сьвятой Тройцы ачаравала Ўсход настолькі, што першы дзень Сьвята назвалі Тройцай. Дый Асобе Сьвятога Духа ўсходнікі — (праваслаўныя і ўніяты) — пасьвячаюць другі дзень — Панядзелак Сьвятога Духа.

Але заходнія (індывідуалісты) спэцыяльна пасьвяцілі Сьвятому Духу Нядзелю і Панядзелак, а сьвята Сьвятой Тройцы перанесьлі на наступную нядзелю!

Пэўна-ж, і адны і другія адкрываюць адну й тую самую праўду аб Богу, хоць і падходзяць да яе сваею дарогай. А гэтая праўда ёсьць вельмі важная, каб ратаваць нас ад найбольшага зла, ад эгаізму, які ёсьць жэралам усялякага зла. Каб чалавек мог гэта зразумець, патрэба было абʼяўленьня усіх Т р о х Божых Асобаў.

Нават хрысьціяне, пад уплывам індывідуалізму, які сяньня ўжо пранікае і на Ўсход разам з эўрапэйска-амэрыканскай культурай, калі гавораць або думаюць аб Богу, пераважна ўсё яшчэ думаюць толькі аб адной Першай Асобе, аб Богу Айцу.

Зусім падобна мы, вымаўляючы слова «чалавек», рэдка калі думаем аб агульнай чалавечай прыродзе, якая ёсьць адна ўва ўсім людзтве, а маем на думцы толькі аднаго якога небудзь чалавека — Янку, Юрку ці Сымона, або Ганну ці Уршульку . . . . Таму і

аб Богу нам цяжка думаць як аб супольнасьці Трох Асобаў. Але-ж Хрыстос загадаў хрысьціць усіх «ў Імя Айца і Сына і Сьвятога Духа».

Разважаем, што Хрыстос кажа: «Я і Айцец — гэта адно», «Хто Мяне бачыць і Айца» — настолькі яны да сябе падобныя! Гэта відаць яшчэ і з іншых слоў: «Ня можа Сын нічога рабіць, калі ня ўбачыць таго, што робіць Айцец». — Сын усяго вучыцца ад Айца — адтуль гэтае падабенства паміж імі, дзякуючы якому мы, пазнаўшы Хрыста, пазналі адразу і Айца — ужо дзьве Божыя Асобы.

Хрыстос няменш ясна паказаў нам і Трэйцюю Асобу — Сьвятога Духа. «Калі-ж прыйдзе Суцяшальнік, якога Я вам пашлю ад Айца, Дух Праўды, Які ад Айца зыходзіць, Ён будзе сьведчыць аба Мне». (Ян 15, 26). «Ён навучыць вас усяе праўды, бо не ад Сябе будзе гаварыць, але тое, што пачуе, перадасьць вам».

Гэтую адзіную навуку і будзе прыпамінаць хрысьціянам Дух Сьвяты бо і Ён будзе жыць толькі дзеля Айца і Сына, як і Сын жыў на зямлі толькі Айцом і дзеля Айца. І цалкам дзеля гэтага аб'яўляе нам Бог вялікую тайну адносінаў між Божымі Асобамі, бо гэта ёсьць Божы плян для нашых узаемных адносінаў: гэтак і мы маем укладваць нашае сужыцьцё, бо мы створаны «на абраз і падабенства Божае». А Божыя Асобы маюць сваё вечнае і бязьмернае шчасьце ў тым, што жывуць у любові другіх, як-бы забываючыся аб Сабе.

Сын Божы, калі прабываў на зямлі, дык мала зьвяртаў увагі, як да Яго адносіліся людзі. Найбольш цешыўся або сумаваў толькі аб іх і дзеля іх. Ды яшчэ з узгляду на Айца; бо Айцец ня ёсьць абыякавы, калі людзі крыўдзяць Ягонага Сына. Таму першая Хрыстовая малітва на крыжы была: «Ойча, даруй ім, бо яны ня ведаюць, што робяць». Таму й гаварыў што ўсялякі грэх супраць Яго як Сына, будзе дараваны, бо не Айцец будзе судзіць людзей, але Сын, бо Айцец увесь суд перадаў Сыну, каб людзі лічыліся з Ім і шанавалі Яго як і Айца. Хрыстос ня ўтаіў таго, што для людзей гэта вялікае шчасьце, бо Сын Божы ня будзе даходзіць сваей крыўды. Аднак Хрыстос перасьцярог, што толькі адносна Сябе Самога Ён ёсьць абыякавы. Але адносна Айца і Сьвятога Духа Хрыстос ня будзе абыякавы і прыгразіў, што нат' за грэх супраць Сьвятога Духа, справа «ня будзе даравана ані ў гэтым, ані у прышлым жыцьці». Дараваць яму мог-бы толькі Сам Сьвяты Дух, якім гэты няшчасны грэшнік пагарджае.

Гэта самае адносіцца і да Айца, Які Сам ня будзе даходзіць сваіх правоў, бо пра гэта падумае ягоны Сын.

Што аднак асабліва важна і дзіўна для нас, гэта навука Хрыста, што Ён таксама справядліва будзе бараніць людзей, сваіх «найменшых братоў» і даходзіць іхніх крыўдаў, бо Сын Божы парадніўся з людзьмі, калі Сам стаўся чалавекам!

---

*Уладзімер Глыбінны*

# На Сьвятой Зямлі

(НАРЫСЫ З ПАДАРОЖЖА Ў ПАЛЕСТЫНУ)

*(Працяг)*

VI.

## МАЛІТВА ПЕРАМОГІ НАД СЬМЕРЦЮ

*«Чертог твой вижду, Спасе Мой, украшенный, и одежды не имам да вниду в он. Просвети одеяніе души моея, Светодавче, и спаси мя».*

З Малітвы Граду Іерусалиму.

Чытач, аднак, ня меў бы поўнага абраза ўражаньняў, якое робіць на паломніка Храм Жываноснага Гробу Гасподняга ў Ерусаліме, калі б мы нічога не сказалі аб начных богаслужбах у ім. Яны перажываюцца асобна і пра іх варта хаця-ж коратка нешта сказаць.

У суботу ўвечары а шостай паломнікі выяжджаюць з мейсцаў сваіх стаянак да Храму Жываноснага Гробу. Сэрцы стукочаць ад усхваляваньня. Прыбліжаючыся да Галгофы, чуецца грэцкае чытаньне Павячэрніцы і слых прыемна вырозьнівае сьпяваньне Канона «Хваляю Марскою». Гэта вучні Духоўнай школы магутным сугаласьсем маладога, зычнага хору вяшчаюць сьвету малітоўныя галашэньні перад Крыжом Богачалавека. Паломнікі займаюць месцы вакол Кувукліі, на Галгофе і іншых цэнтральных прыдзелах Храма. Неўзабаве іншыя вернікі пакідаюць паломнікаў адных. Урачыста зачыняюцца

дзьверы, і паломнікі застаюцца сам-на-сам з вялікшымі ў сьвеце хрысьціянскімі помнікамі. Колькі гадзінаў яны могуць самі ціха маліцца, як каму на душу пакладзена. Ціха тады ўва ўсіх Божых кутках вялікае царквы, адно чуецца шапаценьне вуснаў — словы ўдзячнасьці Вялікаму Пакутніку. І кажды тады неаднакрацъ успомніць ўсё сваё жыцьцё і праакзаменуе яго ў сьвятле Божае праўды. Недзе каля адзінаццатай гадзіны ўначы дзьверы Храма зноў урачыста адчыняцца. У прысутнасьці прадстаўнікоў трох веравызнаньняў тады прапушчаецца ў Храм служачы Архірэй. Прагучаць унутранныя званы перад пачаткам Богаслужбаў: праваслаўнай, каталіцкай, армянскай. Тры дыяканы абыйдуць увесь Храм з панікадзілам. Пачнецца ютрань, пасьля Божая Літургія, з крыжовым абходам Кувукліі ў часе Вялікага Ўваходу. Пасьля памінаньне запісаных імёнаў з чытаньнем асобай збаўчай («разрешительной») малітвы. Затым — Прычасьце. Даваньне Вялікоднае дзеля таго, што Гроб Господні ёсьць штодзённы і Вечны Вялікадзень, Парогам да Раю, вакном у вечнасьць. Гэта ёсьць мейсца найбольш магчымага на ўсёй зямлі набліжэньня да вялікага выратаваўчага чыну Богачалавека.

Паломнікі моляцца далей, сьпяваюць сьвятыя песьні ў сваёй роднай мове. Чуюцца незнаёмыя словы сірыйскае, армянскае, грэцкае, арабскае мовы; у іхняе разнагалосьсе плаўна ўліваюцца латынскія псальмы. Для праваслаўнага вуха нашых суродзічаў наймілей гучыць як медзь стараславянскае, звыклае ім мовы. Усе разам урачыста сустракаюць нядзелю, як дзень вялікага Ўваскрошаньня. Нядзельны Трапар у вуснах нашых суродзічаў асабліва вылучаецца сілай слоўнае выразносьці і надзвычай уразліва гучыць асаннаю ідэі перадоленьня сьмерці праз самую сьмерць. Вось прарэзьлівы жаночы голас высока ўзносіцца над іншымі:

*«Христос воскресе из мартвых . . .*

Дзесяткі і сотні розных галасоў магутна падцягваюць:

*смертию смерть поправ . . .*

І ўжо як у набат усе разам сьцьвярджаюць вялікі гуманістычны сэнс Хрыстовага чыну:

*и сущим во гробех*
*живот даровав».*

Ніколі яшчэ ў жыцьці Ўсеваладу Ціхановічу не даводзілася гэтак глыбака прымаць да сэрца гэтыя простыя і разам з тым наймудрэйшыя словы, напоўненыя самым асэнсаваным і найбольш прачулым зьместам. Яны рабіліся тут гэтулькі многазначнымі і так прыпадалі да сэрца, будзячы ў ім што ёсьць найбольш добрадзейнага і закранаючы самыя патаемныя струны чалавечай існасьці.

Ён пачуваў, што ўжо ніколі тыя струны не замоўкнуць у ім на ўсю моц і што ўжо цяпер ён ведае, да каго будзе ляцець у парываньнях скранутая са здраньцьвеньня душа. Ён вяртаўся з Храма апусьцелым перадраніцнім Ерусалімам і ўся ягоная ўсхваляваная істота сьпявала хвалу Сьвятому Гораду, які прасьвятляў ягоную збалелую душу, лячыў яе раны, надзяляў яе сьвятлом і ўздымаў увысь. Усевалад цяпер ведаў, што недарэмна ён абраў гэтае далёкае падарожжа. Ужо дзеля адной той трапяткой радасьці, якая агарнула яго цяпер і будзіць надзею на лепшае, больш набліжанае да ўзору Хрыстовага, жыцьцё, паўнейшае ахвярнасьцяй і добрымі справамі, варта было сюды ехаць. Ён пачуваў сябе на сваёй хрысьціянскай Бацькаўшчыне, тут у гэтым абраным месьце. Сьвяты горад уводзіў яго ў вечны Ерусалім Нябесны, даў змогу дакрануцца да яго духоўных палацаў і апаліць сэрца тым вечным нязгасным агнём любові Хрыстовай, за які Табе, Творца, вечная ўдзячнасьць і найвялікшы Дзякуй. І Ўсевалад прыкленчыў да Ерусалімскае зямлі каля Дамаскае Брамы на пляцу і ад усяго расчуленага сэрца пацалаваў яе. І адразу пачуўся яшчэ больш акрыленым і лёгкім.

Першыя праменьні ўзыходзячага сонца неяк раптам асьвятлілі тую плошчу і кінулі колькі пасмаў на ягоны твар. І ён засьвяціўся нязнаным дагэтуль, сукрытым раней сьвятлом, што рабілі тыя хвіліны хады па вуліцах Сьвятога Граду найбольш шчасьлівымі з усіх зазнаных у жыцьці. Пачуцьці самі сабою выліваліся нескладанымі радкамі вершу ў гонар Вечнага Сьвятога Места, на вялікі жаль незапісанымі!

VII.

## КРЫЖОВЫМ ШЛЯХАМ

*«Ісус, каб асьвяціць свай народ, быў мучаны за варотамі».*
(Ап. Паўла, да жыдоў 13, 12)

Незабыўныя ўражаньні пакідае на ўсё жыцьцё ў кажным паломніку Крыжовы Шлях Хрыстоў ад Гефсіманіі да Галгофы. З паказаньняў Евангелістаў ведама, што пасьля Разьвітальнай Вячэры і раздачы вучням Свайго вельмі чыстага Цела і Крыві, Збавіцель павёў іх з Сіёнскай Сьвятліцы на гару Елеонскую, у паселішча Гефсіманіі, за паток Кедрон, дзе быў сад. Гэта на заходнім усходне Елеонскай гары, насупраць Ерусаліму. Там дагэтуль захаваліся пячоры, у якіх Гасподзь

маліўся з сваімі вучнямі ў халодныя зімовыя ночы. Пакінуўшы вучняў на звычайным, ведамым Юдзе месцы, Гасподзь з трымя з іх падаўся далей у сад. Пасьля, адыйшоўшы ад іх на адлегласьць кіненага камня, маліўся да крывавага поту. У сярэдніх вякох там была Царква Хрыстовага Маленьня. У вялікі чацьвер крыжовы ход з Елеону, пасьля страстной службы ў базыліцы. Ўзьнясеньня, спушчаўся ў Гефсіманскі сад да месца Хрыстовага Маленьня і укленчыўшы, падобна Хрысту, усе маліліся. У царкве Хрыстовага Маленьня чыталася Евангельле да словаў: «Чувайце і маліцеся, каб ня ўпасьці ў спакусу» (Мацьв. 26, 41). Далей спушчаліся ў самое мястэчка Гефсіманію, куды быў прыйшоў Юда з воінамі, каб здрадзіць Ісуса. Цяпер няма тае царквы. Але каля цяперашняй расейскай царквы сьв. Марыі Магдалены каля Гефсіманскага саду, у нішы па дарозе да расейскага саду, стаіць абломак калёны той царквы з грэцкімі словамі, што азначаюць: «Ойча Мой!». А ў Гефсіманскім садзе мы бачым ступені на крамяністым камені, што вядуць на Віфанскую дарогу. Там Юда спаткаў Госпада і выдаў яго воінам здрадніцкім пацалункам. На гэтым месцы таксама некалі стаяла Царква Вялікага чацьвярга. Сірыйцы ў 9 веку пры пабудове тут Храму напаткалі фундамант і мазаіку чацьвёртага веку. Цяпер там узвышаецца прыгожая францісканская базіліка, пабудаваная намаганьнямі 12 эўрапэйскіх дзяржаваў. Сьцены яе ўпрыгожаныя мазаікай. Перад прастолам агароджаны прыродны камень. Вокны з сіняга шкла, каб у сярэдзіне стаяла вечная Гефсіманская ноч. А вакол — аліўкавыя дрэўцы, што паходзяць ад тых самых аліўкаў, якія чулі тужлівую малітву сьмяротна засмучанае душы Гасподняй.

Адгэтуль праз крыніцу Кедронавую павялі Мучаніка да першасьвятара. Паломнікі ідуць той-жа дарогаю, па якой вялі Богачалавека. Справа ўздымаліся высокія сьцены Ерусаліму. Ніжэй у даліне ў ночнай цішы журчаў вядомы сьвету ручай. Зьлева хутка мінулі помнік Авесалому, прайшлі паўз грабніцы. Раздуваныя начным вецяркам з Елеону паходні воінаў выхоплівалі з цемені кавалкі краменчатай дарогі, што вілася з узгоркаў далавах і зноў на ўзгоркі. Часам з-за хмарынак паказваўся месяц, і тады залітая бледным сьвятлом даліна набывала яшчэ большай таямнічасьці; узвышша Офель і гарадзкая гара Сіён над купельлю Сілаамскай выглядалі ўначы дзіўнымі страшылішчамі, дакорамі ня меньш страшным чалавечым справам.

Ісуса Хрыста прывялі спачатку да першасьвятара Анны, як сьведчыць евангеліст Іоанн, які з сьв. Пятром ішоў усьлед Госпада. Па дарозе, пазнаўшы настаўніка, малады чалавек дапытваўся, куды вядуць арыштаванага. Вырываючыся ад стражнікаў, пакінуўшы ў іхніх руках свой плащ, ён здолеў голым уцячы. Іншыя вучні пазналі ў ім аднаго з 70 апосталаў — Марка. Цяпер у паўночна-усходняй частцы армянскага кварталу на месцы дома апостала і евангелістага Марка стаіць сірыйскі манастыр. А на месцы дома першасьвятара Анны цяпер манастыр армянскіх сёстраў, г. зв. Аліўкава, бо ў двары багата аліўкавых дрэваў, да аднаго з якіх быў прывязаны Збаўца. У царкве таго ж манастыра ў адным з аўтароў паломнікам паказваюць месца допыту Збаўцы Аннаю і дзе ‘адзін з пыганятых ударыў Богачалавека ў твар.

Зьвязанага Хрыста далей вядуць у дварэц Кайяфы што каля Давідавай Брамы. Тое месца цяпер на Ізраільскім баку. Гэта там адбылася трагедыя адрачэньня Пётры, пасьля чаго ён горка плакаў у пячорах. На тых месцах была пабудаваная царква Плачу сьв. апостала і само мейсца называецца па лацінску «Галлі Канту», што значыць «сьпяваючы певень».

Зьвязаны Хрыстос быў асуджаны сінэдрыёнам на сьмерць уначы. Каб атрымаць згоду Прэтора Пілата, трэба было чакаць раніцы. Разбэшчаны рымлянін не любіў уставаць рана. Ён звычайна хроп у пасьцелі да паўдня. Асуджанага сьмяротніка вялі ў перадранішнім мораку, каб схаваць ад вачэй натоўпу і вучняў па гулкім бруку вузкіх вуліцаў старажытняга Ерусаліму. Яго прывялі да Прэторыі, вежы Антонія, што цяпер на вуліцы ад Авечай Брамы. Грубы стражнік адмаўляўся прымаць арыштаванага: Прэтор яшчэ сьпіць і ня любіць, каб яго турбавалі гэтак рана. Але жыды ўзмаліліся, каб недзе знайшоў месца арыштанту. Тады рымскі стражнік забраў Хрыста і пасадзіў яго ў турму ў піўніцы, якая пад сучасным будынкам аж да сяньня захавалася.

Паломнікі спушчаюцца ў маленькую царкву на месцы колішняй турмы, дзе вязьнем быў сам Богачалавек. Там жа трымаліся разбойнікі Варавва і іншыя, з ягонай шайкі. Камэра Вараввы была ў ніжнім ярусе, куды арыштантаў спушчалі па лесьвіцы праз дзірку ў столі. Там у нішы за кратамі сядзелі найбольш небясьпечныя злачынцы. У камэры Хрыста і цяпер можна бачыць каменную лаўку з прароблёнымі ў скале дзіркамі для ног, якія закоўваліся ў кайданы.

Другі ярус гэтае турмы пазьней паміж сотым і трохсотым гадамі служылі катакомбамі для першапачатнай хрысьціянскай царквы ад перасьледу жыдоў.

Верхняя частка усё ж яшчэ значна ніжэй сучаснага ўзроўню глебы становіць сабою за-

ходнюю частку Ліфастротана, дзе ён выходзіў у горад з Прэторыі. Там некалі перад тысячным народным морам Пілат паставіў на пэмосьце сваю Ахвяру ў барвовым вянку і выгукнуў: «Се, Человек!» Ён ужо знаходзіўся пад уплывам свае жонкі, якая пасьпела паслаць яму на судзілішча просьбу не караць сьмерцяй: вязень ужо цэлую ноч змушаў яе пакутваць і не пакідаў яе думак. Пілат прапанаваў абмежавацца адно бічаваньнем. Але на пляцу Ліфастротана варожы Хрысту натоўп ніяк не хацеў задаволіцца жалюгодным выглядам пакаранага Пакутніка. Іудзеі голасна крычалі: «Распні Яго!

— Гэта Цар ваш! Ці ж я вашага цара распну? — пытаўся у натоўпу Пілат.

— Распні, распні, укрыжуй яго! — адным немым голасам вымагаў разьюшаны натоўп. «І перамог крык іх і архірэяў» (Лука 23, 23). Пілат памыў рукі і аддаў Хрыста на ўкрыжаваньне. Тут жа быў прадыктаваны і падпісаны Пілатам прысуд і тут жа на плечы Хрыстовыя быў узложаны Крыж.

Цяпер над уваходам у тое самае месца адна з трох арак Брамы Прэторыі на вуліцы завецца «Се, Человек», бо туды былі перанесеныя два камні, на якіх стаялі Богачалавек і Пілат у тыя вызначныя хвіліны.

Адгэтуль, з Ліфорстратону і пачынаецца Крыжовы Шлях Гасподзен. З цяжкім крыжом Хрыстос сышоў з Ліфостратону, прайшоў пад аркаю і далей па пакутнаму шляху. На рагу першага перакрыжаваньня вуліцаў некалі стаяла пабудованая царыцай Аленай у 4-м стагодзьдзі царква Божай Маці, бо там якраз, паводле паданьня, Марыя стаяла, стомлена чекаючы пастановы Пілатавага суду. І вось яна пабачыла скрываўленага пад крыжом Сына. Мазаіка чацьвёртага веку паказвае дробнымі каменчыкамі сляды ейных ног. Некалі там быў Бізантыйскі храм, цяпер — армянскі каталіцкі прастол.

Усевалад Ціхановіч усю дарогу ўздоўж былой гарадзкой сьцяны да Суднае Брамы, праз якую Хрыста вывялі, каб весьці да Галгофы, ішоў за групай паломнікаў з нізка сьхіленай галавой Рабіў ён гэта ў знак пашаны тым вялікім падзеям на іх сапраўдных мясцох. Глыбокім болем адгукаўся ў ім кажны спынак на мясцох, дзе Хрыстос падаў на зямлю пад цяжарам крыжа. Ён нізка ўкленчваў на кажнай з 13 г. зв. «станцыяў» крыжовага шляху, дзе каталікі пабудавалі капліцы: іх яны каждую пятніцу пасьля трэцяй гадзіны абходзяць з малітваю. Сапраўднымі месцамі тых падзеяў зьяўляюцца, акрамя згаданых ужо турмы і Ліфострoтана, таксама Армянская царква з яе падзямельлем, рэшткі глыбокага сутарэньня і сьцяны, як і старых фундамантаў пад мелхідскім манастыром на сёмай станцыі. Рэшткі гарадзкой сьцяны часоў Хрыстовых і самы парог Суднае Брамы былі выяўленыя ў 1883 годзе ў канцы Крыжовага Шляху на сучаснай расейскай дзялянцы раскопах. Каля Суднае Брамы рымляне звычайна абвяшчалі канчатковыя прысуды сьмяротнікам. Дзеля таго, што, паводле Евангельля, у тыя часы Галгофа і месца Господняга Гробу, скала ў садзе Іосіфа Арымафейскага, былі за межамі гораду, «за варатамі», як кажа сьвятое Пісьмо, Хрыстос прайшоў Судную Браму, ідучы на Галгофу. Але старая сьцяна была разбураная і на тых месцах за даўгі час нарасло на руінах новых пластоў на 30 мэтраў. Калі ў мінулым стагодзьдзі Расейскі ўрад купіў ад абісінцаў дзялянкі поблізу Храма Гасподняга, архітэктары пры раскопках знайшлі рэшткі масыўнай сьцяны з характэрным для часоў Хрыстовых абчэсваньнем каменьняў. Навуковыя досьледы давялі, што гэта і былі рэшткі старажытняй Ерусалімскай сьцяны з Суднаю Брамаю. Там жа было адкапана шмат іншых рэчаў тае пары, сярод іх — арка з калёнамі старажытнага дойліцтва часоў базылікі Канстантына Вялікага над Гасподнім Гробам. Гэта была рэшта прапілеяў, якімі акружаўся вакол велічны храм. Гэтыя вынаходзтвы былі вызнаныя ўсім сьветам. Заместа плянаванага Расейскага Консульства рашылі будаваць Храм Крыжовага Шляху. Перад знойдзеным каменным прастолам, часткаю колішняй Базылікі, на ўсход выбудавалі аўтар і іконастас, Храму было дадзена імя сьв. Александра Неўскага. Парог Суднае Брамы накрылі драўлянай Рамаю са шклом. За ім высіцца вялікае Ўкрыжаваньне на абломку мясцовага камня. Абраз Збаўцы з Крыжом на ўсю сьцяну аж да іншае старадаўняе іконы. У паўночным кірунку 12 ступеняк вядуць уніз да аркі портыка былой Базылікі. У Вялікі чацьвер праваслаўнае духавенства з Гафсіманскага Саду пасьля Ютрані і чытаньня 12-ці Евангельляў, з сьвечамі і сьпяваньнем, з працэсіяй вернікаў Сьв. Гораду сьціроўваецца да Сьвятога Парогу і там Страстная Служба аддае належнае сьветазбаўчым пакутам над тым самім месцам, дзе Богачалвек ўзыходзіў на Галгофу, сьхіляючыся пад цяжарам Крыжа і вяшчаючы сваімі ранамі і цярпеньнямі новую эру ў гісторыі чалавецтва.

На Галгофе замыкаецца кола Страснога Шляху, і Пакуты Хрыстовы дасягаюць свайго апагэю. Сьціскалася Ўсеваладава сэрца ад болю ўсьведамленьня рэальнасьці тога шляху, якімі прайшло ці адно пакаленьне паломнікаў, а цяпер давялося і яму зазнаць ягоную відавочнасьць.

# Кардынал Мітрапаліт Язэп Сьліпый у Марыян Гауз





Беларускі рэлігійны цэнтр у Лёндане меў вялікі гонар і прыемнасьць гасьціць у сябе Дастойнага Кардынала Мітрапаліта Язэпа Сьліпога, які пажадаў адслужыць тут сьв. Літургію.

Вельмі рана (а гадз. 7,30) дня 12 траўня зьявіліся перад Марыян Гауз два самаходы. У адным з іх знаходзіўся Львоўскі Мітрапаліт разам з двума Біскупамі, Я. Д. Аўгустынам Гарняком, Экзархам украінцаў у В. Брытаніі і Я. Д. Уладзімерам Маланчуком, Экзархам украінцаў у Францыі, а ў другім сп. Олеськіў, сакратар Мітрапаліта з Рыму і адна законьніца базыліянка.

Дзень удаўся даволі цёплы і прыгожы. Перад Марыян Гоузэ ўрачыста спаткала Дастойнага Гасьця беларускае духавенства на чале з Біскупам Ч. Сіповічам; ад белар. грамадзтва вітаў Гасьця хлебам-солю сп. Я. Міхалюк і ад школы сьв. Кірыла Тураўскага вучань Цьвірка.

Невялікая наша капліца хутка напоўнілася вернікамі, якія, даведаўшыся аб візыце Кардынала, пасьпяшылі прыбыць, некаторыя нават з далейшых раёнаў Лёндану.

Стройна і з вялікай пабожнасьцяй была адслужана сьв. Літургія. З Дастойным Гасьцём саслужылі Б-п Ч. Сіповіч, два ўспомненыя ўкраінскія Біскупы, а. Язэп Гэрмановіч і а. канцлер Орач. Пасьля сьв. Эвангелля Б-п Ч. Сіповіч у казаньні зьвярнуў увагу на незвычайна цяжкі шлях жыцьця Мітрапаліта (18 гадоў турмаў і лягераў!) і на асаблівую такжа Божую помач, без якой ня было-б магчыма ператрываць усе цярпеньні маральныя і фізычня ў жорсткай няволі.

У Асобе Мітрапаліта сяньня беларусы бачаць найвышэйшага царкоўнага Дастойніка пасьля Рымскага Папы і свайго сапраўднага прыяцеля. Разам з сваім вялікім папярэднікам, Мітрапалітам А. Шэптыцкім, сяньняшні Кардынал Я. Сьліпый у часе апошняй вайны імкнуліся адрадзіць украінскую і беларускую Цэрквы. Тады быў створаны Беларускі Каталіцкі Экзархат на чале з а. Антонам Неманцэвічам.

Пры канцы Літургіі Дастойны Госьць зьвярнуўся да ўсіх прысутных са шчырым словам (глядзі перадавіцу!). Пасьля набажэнства Госьць ахвотна згадзіўся сфатаграфавацца з усімі прысутнымі і адведаць нашыя ўстановы: школу, бібліятэку, музэй.

У памятнай кнізе Кардынал пакінуў для нас гэтыя незабыўныя словы: «Білоруському Народові честь і слава. Христос Воскрес!»

Разьвітваючыся з Дастойным і Дарагім Гасьцём, усе мы жадалі, каб Бог трымаў Яго і надалей у добрым здароўі, каб Ён мог яшчэ больш спрычыніць дабра для сьв. Царквы і для свайго слаўнага Украінскага Народу.

# Малітвы з жыцьця

Гэта ёсьць прыгожая гутарка сучаснага чалавека з Богам. Аўтар кніжкі француз Міхал Квуаст. Кніжка выйшла ў сьвет у многіх выданьнях і перакладах. Ад 1963 г. разыходзіцца ў ангельскай мове і друкавалася ўжо 7 разоў! Тут даюцца невялікія вынятки з гэтае паважнае і цікавае кніжкі.

РАЗВАЖАНЬНЕ АБ ЛЮБОВІ

Мы створаны з любові і для любові. На зямлі вучымся любіць, а ў гадзіну сьмерці пройдзем экзамен з любові. Калі поўнасьцю навучымся любіць, будзем жыць вечна ў Любві.

Колькі разоў ставім сябе вышэй другіх (самалюбства), ня выконваем на зямлі таго, што Бог прызначыў чалавеку і сьвету. Існуе толькі двакая любоў: любоў самога сябе і любоў Бога і бліжняга. Жыць — гэта ёсьць выбіраць любоў адну або другую.

«Хто любіць брата свайго, той прабывае ў сьвятле, і няма ў ім спакушэньня, а хто ненавідзіць брата свайго, той у цемры знаходзіцца і ў цемры ходзіць ды ня ведае, куды ідзе, бо цемра вочы яму асьляпіла». (I. Ян 2, 10—11).

Існуюць толькі дзьве любові, Госпадзе: любоў сябе і любоў Цябе і бліжняга. Дык колькі разоў люблю сябе, тады крыху ёсьць менш для Цябе і для другіх. — Гэта ёсьць зьнікаЬньне любові, страта любові . . .

Бо любоў існуе дзеля таго, каб выходзіла ад мяне і зыходзіла на другіх. За кожным разам, калі яна вертаецца назад да мяне, яна слабее, вяне і памірае.

Любоў сябе, Госпадзе, гэта атрута, якую штодзённа ўдыхаем.

Любоў сябе любуецца папяроскай і не дае яе суседу.

Любоў сябе выбірае найлепшую частку і займае найлепшае мейсца.

Любоў сябе дагаджае сваім пачуцьцям і бярэ для іх яду са стала другіх.

Любоў сябе гаворыць аб сабе самым і робіць мяне глухім на словы другога.

Любоў сябе выбірае і накідвае выбар прыяцелю.

Любоў сябе строіць мяне і малюе, хоча, каб я блішчэў, зацяняючы іншых.

Любоў сябе спачувае мне і не дбае пра цярпеньні другіх.

Любоў сябе галосіць мае думкі, а пагарджае чужымі.

Любоў сябе прызнае мае цноты, называе мяне дастойным чалавекам.

Любоў сябе пацягвае мяне зарабляць грошы, выдаваць іх на маю прыемнасьць і зьбіраць іх на будучыню.

Любоў сябе абувае мяне ў мяккія пантофлі і садзіць у мяккае крэсла.

Любоў сябе дае здаваленьне з мяне самога і павольна наводзіць на мяне санлівасьць.

А што горшае, Госпадзе, гэта тое, што любоў сябе ёсьць любоўю крадзенай. — Яна была прызначана для іншых; патрэбная ім для жыцьця, для іхняга разьвіцьця, а я яе зьнепраўіў. Вось гэтак любоў сябе родзіць цярпеньні іншым. I гэтак людзкая любоў да самых сябе родзіць людзкое гора.

Цярпеньні дзіцяці, бітага па твары маткай і цярпеньні чалавека, якога шэф лаіць у прысутнасьці работнікаў.

Цярпеньні няпрыгожай дзяўчыны, пакінутай на балі і цярпеньні жонкі, якую муж ужо не цалуе.

Цярпеньні дзіцятка пакінутага ў хаце, каб не мяшала, і цярпеньні дзеда, з якога хлапчукі сьмяюцца, бо ён вельмі стары.

Цярпеньні спалоханага чалавека, які ня мае каму высказацца, і цярпеньні зьбянтэжанага юнака, якога неспакой абсьмяялі.

Цярпеньні адчайнага, які кідаецца ў канал і цярпеньні злачынцы, засуджанага на сьмерць.

Цярпеньні безработнага, які хацеў-бы працаваць і цярпеньні работніка, які зрывае здароўе за сьмешную плату.

Цярпеньні бацькі, якога сям'я сьціснута ў адным пакойчыку, калі побач стаіць пусты флігель, і цярпеньні маткі, у якой галодныя дзеці, калі тымчасам рэшткі з банкетаў выкідаюцца на сьметнік.

Цярпеньні самотніка, што памірае адзінока, калі тымчасам побач сям'я, папіваючы каву, чакае ягонай сьмерці.

*

Вось усе цярпеньні!

Усе крыўды, горыч, уніжэньне, клопаты, ненавісьць і роспач.

Усе цярпеньні — гэта незаспакоены голад.

Голад любові.

I так паступова — эгаізм за эгаізм — людзі пабудавалі звырадн елы сьвет, які тыраніць людзей.

I так людзі праводзяць час, пасучыся сваім самалюбствам.

Калі навакол іх іншыя паміраюць ад голаду, выцягваючы да іх рукі.

Бо людзі змарнавалі любоў.

I я змарнаваў Тваю любоў, о, Госпадзе!

*

У гэты вечар прашу Цябе, Госпадзі, памажы мне любіць!

Прычыні, Госпадзі, каб я ўмеў пашыраць у сьвеце праўдзівую любоў.

Прычыні, каб праз мяне і праз тваіх сыноў любоў была ўнесена у ва ўсе асяродкі, у ва ўсе грамадзтвы, у ва ўсе эканамічныя і палітычныя сыстэмы, у ва ўсе загады, у кантракты і рэгуляміны.

Прычыні, каб любоў пранікала ў канцэлярыі, у фабрыкі, кварталы, камяніцы, у кіно і на забавы.

Прычыні, каб пранікла ў сэрцы людзей і каб я ніколі не забыўся, што змаганьне за лепшы сьвет — гэта ёсьць змаганьне любові у службе любові!

*

Памажы мне, Госпадзі, любіць!

Не змарнаваць маей здольнасьці да любові; любіць сябе ўсё менш, каб найбольш любіць іншых.

Так, каб навакол мяне ніхто не цярпеў, ані паміраў, таму што я краў любоў, якая была ім патрэбная да жыцьця.

*

Дзіця маё! ніколі ня зможаш уліць у сэрца чалавека і ў цэлы сьвет даволі любові.

Бо чалавек і сьвет прагнуць любові бесканечнай, — а толькі Бог можа любіць любоўю безгранічнай.

А калі хочаш, дзіцятка, Я даю табе маё жыцьцё. Вазьмі яго ў сябе.

Даю табе маё сэрца, даю яго маім дзецям.

І ты, дзіцятка, любі маім сэрцам! І супольна напэўніце і збавіце сьвет...

## З царкоўнага жыцьця

29 красавіка Папа выдаў паважны дакумант — новае права, якое рэгулюе справы мяшанага сужэнства. Заўсёды для Каталіцкай Царквы мяшаныя сужэнствы прычынялі нямала труднасьцяў і гэтая праблема такой самай астаецца, пакуль не наступіць у сьвеце адзінства хрысьціянскае веры. Зьмяшчаем пункты гэтага дэкрэту:

1) Сужэнства каталіка (-чкі) з асобай ахрышчанай некаталіцкай і з асобай неахрышчанай павінна мець дазвол адпаведнага (катал.) біскупа.

2) Сужэнства з асобай некаталіцкай — ахрышчанай — без дазволу катал. біскупа лічыцца важным, але недазволеным, а з асобай неахрышчанай ёсьць няважным.

3) Біскуп дае дазвол на мяшане сужэнства тады, калі катал.-старана забавяжыцца захаваць сваю веру і ў ёй хрысьціць і выхоўваць сваіх дзяцей.

4) Некаталіцкая страна павінна быць паведамленая аб гэтым забавязаньні каталіцкай стараны.

5) Абедзьве староны павінны пазнаць і прыняць навуку аб асноўных прыметах і аб самай істоце сужэнства.

6) Кананічная форма заключэньня сужэнства абавязвае пад засьцярогай яго няважнасьці. Аднакжа дзеля слушных рацыяў біскуп можа ад гэтага звольніць і прыпісаць іншую форму, але заўсёды такую, каб сужэнства было публічным.

7) Забараняецца браць сужэнскі шлюб паводле іншай веры перад каталіцкім шлюбам або пасьле яго: таксама не дазваляецца і ў часе яго заключаць другі раз сужэнскую ўмову перад прадстаўнікам іншага веравызнаньня.

8) Справы мяшанага сужэнства і духовая апека над ім павінны быць абмеркаваныя супольна душпастырамі аднаго і другога веравызнаньня.

9) Паасобныя Канфэрэнцыі Біскупаў маюць дакладней афармаваць прадпісы адносна формы заключэньня мяшанага сужэнства, асабліва забавязаньне каталіцкае стараны.

*

Як бачым, новае права лагодзіць у значнай частцы папярэдняе права. Напрыклад: няма кары экскомунікі, калі хто возьме шлюб без дазволу біскупа. І старана некаталіцкая не абавязана даваць прырачэньне, як было раней, на абавязак выхаваньня дзяцей па каталіцку. Пазваленьне на мяшанае сужэнства цяпер дае біскуп, калі даўней гэтая справа належыла да кампэтэнцыі Ватыкану.

Аднакжа мяшаныя сужэнствы ніколі ня перастануць быць перашкодай да дасканалага духовага адзінства сям'і, бо для такога адзінства справа рэлігіі мае рашучае значэньне. Гэта падкрэсьлівае новы дакрэт і асьцерагае, каб — без паважнае прычыны — такіх зьвязкаў не тварылася.

Мог-бы хто сумнявацца, чаму Царква не дае поўнай свабоды ўступаць у мяшаныя сужэнствы? Адказ: Царква, як кажны разумны чалавек, мусіць трымацца прынцыпаў: а) З Божага права кажны чалавек абавязаны ў сумленьні трымацца веры, якую ўважае за праўдзівую і ніхто ня

можа яго з гэтага звольніць. в) Нельга ад нікога вымагаць таго, што было-б праціўнае ягонаму сумленьню.

Дзеля гэтага Царква дамагаецца ад катал. стараны, каб у мяшаным сужэнстве і сама трымалася сваей веры і выхоўвала ў ёй сваіх дзяцей.

✳

### РУПЛІВАСЬЦЬ ПРА СЬВЯТАРСКІЯ ПРЫЗВАНЬНІ

Дзень 12 красавіка быў празначаны для малітваў аб сьвятарскія прызваньні. У агульным аслабленьні хрысьціянскага духу зьменшыўся таксама лік гэтых прызваньняў. Папа, напамінаючы пра гэты крызыс, гаварыў, што трэба для сьвятарскіх прызваньняў тварыць спрыяльныя ўмовы, як у душах цяперашняй моладзі, так і ў хрысьціянскіх сем'ях, у грамадзтве і ў месцах, дзе адбываецца хрысьціянская і сьвятарская фармацыя. Сьвятарскае прызваньне трэба прадстаўляць моладзі, як поўнае самааддканьне ў любові да Хрыста і выключнай службе Эвангеллю. Шматлікія прызваньні выяўляюцца там, дзе самаахвярнасьць падтрымлівае веру і любоў да Бога на высокім узроўні. Рэлігійная сытуацыя на сьвеце ёсьць гэтага доказам: у краях, дзе існуе прасьлед рэлігіі, сьвятарскія прызваньні праяўляюцца часьцей.

✳

### З СУСЬВЕТНАЙ РЭЛІГІЙНАЙ СТАТЫСТЫКІ

Паводле апошніх даных усіх хрысьціян на цэлым сьвеце ёсьць звыш мільярда. З гэтага каталікоў каля 614 мільёнаў, 272 міль. пратэстантаў. Ліку праваслаўных нельга падаць дакладна дзеля браку статыстыкі ў Саветах. — Няхрысьціян на сьвеце звыш двух мільярдаў: у гэтым 509 міль. мусульманаў, 444 міль. Гіндў, 14 міль. жыдоў і ў другі мільярд увойдуць — шынтаізм, буддызм і іншыя паганскія рэлігіі, а такжа і атэізм.

✳

### СУСТРЭЧА МУСУЛЬМАНАЎ З ХРЫСЬЦІЯНАМІ.

З ініцыятывы Сусьветнай Рады Цэркваў адбыўся ў Лібане зьезд прадстаўнікоў мусульманаў і хрысьціянскіх Цэркваў. Бралі ў ім удзел і каталікі. Адбылася абмена думак у справе лепшага пазнаньня, збліжэньня і супрацы ў розных галінах.

✳

### ДУШПАСТЫРСТВА ЭМІГРАЦЫІ І ТУРЫСТАЎ

Штораз больш людзей эмігруе — ці то з прычыны шуканьня працы, ці то палітычных умоваў, а таксама штораз больш бывае турыстаў. Таму і ўзьнікае справа ўрэгуляваць рэлігійную абслугу для эмігрантаў і турыстаў, асабліва магчымасьць выкананьня абавязку сьв. Літургіі ў нядзелі і сьвяткі. Папа ўстанавіў спэцыяльную Камісію якая мае заняцца справай духовай абслугі для эміграцыі і турызму.

✳

### СЬМЕРЦЬ МАСКОЎСКАГА ПАТРЫЯРХА АЛЯКСЕЯ

Папа выслаў спэцыяльную тэлеграму-кондоленцыю прадстаўніком Праваслаўнай Царквы ў Маскве з нагоды сьмерці Патрыярха Аляксея. На ягонае пахаваньне быў пасланы прадстаўнік Папы кардынал Віллебрандс. І ў прамове да вернікаў Папа ўспомніў пра сьмерць Патрыярха і маліўся за яго, такжа паручаў яго малітвам каталікоў. Пры гэтым Папа загадваў маліцца пра лучнасьць Цэркваў Каталіцкай і Праваслаўнай, аднак бяз крыўды каталікоў усходняга абраду, як гэта было ў Галіцыі ў 1946, калі маса духавенства і 9 біскупаў было там замучаных у турмах і лягерах Сібіру ды ў іншых страшэнных варунках — затое, што не падпісалі адрачэньня ад каталіцкае веры. На жаль, Патрыярх Аляксей згадзіўся прыняць «уніятаў» — «дабравольна», як пісала савецкая прэса.

✳

### АСТРАНАЎТЫ ВЕРАЦЬ У БОГА

Апошнюю няўдачлівую падарож астранаўтаў на месяц Ватыкан — разам з усім сьветам — сьлядзіў вельмі ўважліва і каталікі маліліся пра шчасьлівы іх паварот на зямлю. Называлі іх героямі касмічнага прастору. Пасьля іх павароту Ватыкан выслаў да прэзыдэнта Ніксана гратуляцыйную тэлеграму з шчырымі пажаданьнямі для касманаўтаў і іх сем'яў. — Калі касманаўты жывыя і здаровыя выйшлі з касмічнага карабля і знайшліся на параплаве, усе там прысутныя адгаварылі малітву наст. зьместу: «Госпадзе, радасна вітаем астранаўтаў з іх паваротам, якія, дзякуючы тваей ласцы і сваей і многіх іншых адвазе пераадолелі небасьпеку ў сваей місіі і здаровыя вярнуліся да нас. Пакорна дзякуем Табе, Госпадзе, за гэты іх шчасьлівы паварот. Амэн.» — Бачым, які вялікі кантраст у паводзінах гэтых і савецкіх касманаўтаў. Савецкія, калі знайшліся ў касмічным прасторы і кружылі навакол зямлі, дык (мусіць з загаду, а можа і дабравольна?) блюзьнілі супраць Бога, што «там Яго не бачылі . . . »

✳

### З ПРАМОВЫ ПАЎЛА VI АБ СУПАКОІ

«Нашыя думкі ізноў вяртаюцца да супакою на сьвеце. Да супакою так вартаснага, а яшчэ няпоўнага ў людзкіх сэрцах і сярод народаў. Да супакою церпячага і нязноснага там, дзе няма хлеба для галоднага народу. Таксама мы думаем

пра фальшывы супакой, дзе людзі прагнуць цывільнай і рэлігійнай свабоды. Супакой ляжыць зранены і скрываўлены ў розных частках сьвету... Бедны і няшчасны супакой! Так вельмі пажаданы, так неабходны... аднак прытворны і няшчыры, недатрыманы і здраджаны. — Мы павінны яго прагнуць і яму служыць з поўным адданьнем і ніколі ня траціць надзеі і даверу ў нашы магчымасьці яго асягнуць. Мы створаныя для таго, каб у кажны мамэнт жыцьця прыбліжаць супокай».

*

АФРЫКА—РАДЭЗІЯ: Нядаўна ў гэтым краі ўвайшла ў жыцьцё новая канстытуцыя, якая шмат у чым абмежавала цывільныя і рэлігійныя правы нэграў; а нэгры становяць там 80% усяго насельніцтва, на ўвесь лік 4 з паловай мільёнаў людзей. Чорныя ня могуць нароўні з белымі карыстаць з касьцёлаў, шпіталяў і іншых установаў грамадзкага жыцьця. Адным словам уведзена масавая камплетная сэгрэгацыя чорнай расы. Значыць, праводзіцца поўная дыскрымінацыя чорных людзей, якія паводле прыроднага права зьяўляюцца поўнымі гаспадарамі свайго краю. А прыездныя белыя «госьці» робяць гаспадароў сваімі рабамі.

Каталіцкія біскупы аб'явілі востры пратэст супраць такога несправядлівага парадку і бясправўя, і сказалі, што ня будуць гэтаму падчыняцца, бо Царква мусіць роўна шанаваць кажнага чалавека і асабліва бараніць пакрыўджаных.

*

АРГЕНТЫНА: Біскуп Вава́рэс выступіў у абароне страйкуючых — 3.000 работнікаў электрычнай прадукцыі, якія праводзілі 18 днёвы страйк для палепшаньня ўмоваў жыцьця. Біскуп даказваў прэзыдэнту, што работнікам дзеіцца вялікая крыўда і ніхто іх не бароніць. Прытым біскуп арганізаваў зьбіраньне і пасылку рабочым харчавых пачак, каб падтрымаць іх у змаганьні.

*

## АРГЕНТЫНСКІЯ СЬВЯТАРЫ ПІШУЦЬ ГАЛЯНДЗКІМ

Прагрэсыўныя сьвятары ў Аргентыне, якія змагаюцца ў абароне пакрыўджаных работнікаў, пішуць да галяндзкіх сьвятароў: «Вы жанатыя ці нежанатыя, але важнай справай ёсьць тое, каб усе працавалі для збаўленьня цяперашняга сьвету ў Хрысьце. Гэтае збаўленьне вымагае таго, каб знішчыць імпэрыялізм грошаў, якія не даюць мільёнам людзей магчымасьці осягнуць жыцьцёвы стандарт... У гэтым часе, калі вы дамагаецеся права, каб мець свае сем'і, дык памятайце, што ёсьць многа сьвецкіх людзей, якія зусім зракаюцца шансу закладаць сем'і, каб аддацца поўнасьцю змаганьню — выбавіць сваіх братоў...»

*

## ВІЗЫТА ПАЎЛА VI Ў САРДЫНІІ

Адбылася першая ў гісторыі візыта Папы ў Сардыніі, пасьля таго, як Папа сьв. Понцыян быў сасланы на востраў, як мучанік за веру, дзе і памёр у 235 годзе. — Цяпер Павал VI адбыў юбілейную паездку-пілігрымку: гэта ёсьць юбілей санктуарыюм Божае Маці, дзе знайходзіцца цудоўная статуэтка з VI-га стагодзьдзя. Вернікі ў ліку да 100 тысяч віталі Папу вельмі радасна і сардэчна. У часе сьв. Літургіі былі прынесены спэцыяльныя традыцыйныя мясцовыя ахвяры: авечка, віно, мадэль лавецкай лодкі інш.

Папа ў прамове выясьніў значэньне культу Божае Маці: «Яна ёсьць нашай заступніцай — даверанай асобай у нашых бедах і ў цярпеньні. Вучыць нас, як маем быць добрымі і спагадлівымі для ўсіх. Яна ёсьць каралевай супакою і Маткай Царквы... Хрыстос прыйшоў да нас праз Марыю: мы Яго атрымалі праз Яе і Яна вядзе нас да Хрыста. Калі хочаш быць хрысьціянінам, маеш любіць Марыю!»

*

НЬЮ ЁРК. Апостальскі Пасад прызначыў 25 тысяч даляраў для Аб'еднанага Біблійнага Таварыства ў Нью Ёрку, якое апрацоўвае новы тэкст Старога і Новага Запавету. Працуюць там спэцыялісты каталікі і інш. вызнаньняў. Гэтая Біблія мае быць выдана паводле найстарэйшых і крытычных тэкстаў, значыць, будзе найбольш апрацаванай крыніцай для перакладаў на нацыянальныя мовы. Стары Запавет будзе выданы на гэбрайскай мове, а Новы на грэцкай і гэты апошні зьявіцца ў 1975 годзе.

*

ГІСТАРЫЧНАЯ ВІЗЫТА. 8-га траўня г. г. наведаў Папу Паўла VI Патрыярх Армянскае Царквы, ВАЗГЕН I, «Каталікос». Гэтая Царква лічыць каля 4 мільёнаў вернікаў. Адлучыліся яны ад Каталіцкае Царквы 15 стаг. таму назад: ца гэтага часу захавалі старыя традыцыі хрысьціянскага жыцьця. — Сустрэча адбылася ў Сыкстынскай капліцы ў Ватыкане і абодвы ерархі прывіталіся пацалункам супакою і маліліся супольна пра згоду і еднасьць Цэркваў і пра супакой на сьвеце. У прамовах выражалі жаданьне і пэўнасьць, што згода наступіць — пры Божай ласцы, а Папа палажыў націск на тое, што хрысьціяне павінны прылажыць усялякія стараньні, каб было магчыма прыступіць да супольнае Ахвяры — Сьв. Літургіі.

# За аб'яднаньне хрысьціян

ЧЫКАГО. — Дня 25. I. 1970 была адпраўлена ў аднаўленай катэдры Сьв. Літургія ўва ўсходнім абрадзе, пры ўдзеле сьвятароў з розных усх. абрадаў. Галоўным цэлебрантам быў а. Ул. Тарасэвіч, парах белар. царквы Хрыста Збавіцеля, старшыня Згуртаваньня сьвятароў усх. абраду ў Чыкаго. У саслужэньні былі сьвятары украінскіх цэркваў, мельхіцкай, румунскай і карпатарускай, дый з аббацтва сьв. Пракопія. Прадстаўнікамі кардынала былі б-пы В. Мэкмэнус і Р. Гіліндцэр, а такжа пралаты, сьвятары, манахі і манахіні розных абр.

Катэдра была перапоўненая. Аналой быў пакрыты ручніком з бел. ўзорамі вышытымі Сп. няй Аўд. Жызнеўскай і нат кветкі былі ўложаны ў бел. нацыянальны колер! Літургія вялася пераважна ў англ. мове, але ў пяршыню ў катэдры пачулася і нашая мілагучная бел. мова, такжа і інш. сьвятары маліліся ў сваіх родных мовах. Гэта здарыўся сапраўды гістарычны факт пачуць беларусам сваю мову між магутных і вялікіх народаў, якая заняла «свой пачэсны пасад між народамі», за што так няўтомна змагаўся наш прарок-паэт Янка Купала.

Хор нашай царквы Хрыста Збавіцеля, пад кіраўніцтвам а. Ціру, выканаў літургічныя песьні, якія сваім традыцыйным хараством у кантрасьце да мэлёдыяў зах. абраду абуджалі прысутных да малітаўнага ўзвышша; прытым прысутныя лучыліся ў сьпеве літаніяў і малітваў.

З Божым словам выступаў бэнэдыктынец а. Брэндэн Мэкгрэт: ён падкрэсьліў, што матэр'ялізм агортвае штораз шырэйшыя кругі грамадзтва, стараючыся адсунуць духовую старану чалавека, аднак сьвецкія справы не павінны быць адзіным заспакаеньнем. Мы жывём у сьвеце, але мы павінны ісьці па сьлядох Хрыстовай навукі і выказываць любоў да бліжняга, якая павінна лучыць усе народы.

Наступна а. Ул. Тарасэвіч дзякаваў кард. Кодзі, што дазволіў адправіць усходнюю Літургію ў катэдры, біскупам, сьвятаром, манахам, манахіням і ўсяму народу.

Ад імя кард. Коді прамовіў біскуп В. Мэкмэніс. Ён зазначыў, што сам вельмі рады, бо пабачыў шмат прыгожых абычаяў і што Зах. Царква пераняла нямала формаў з Усх. Царквы, якія ў працягу часу былі на Захадзе забытыя. Дзякаваў а. Тарасэвічу за ўмелую арганізацыю багаслужбы, а таксама і інш. сьвятарам — удзельнікам у сьв. Літургіі.

Да сьв. Прычасьця прыступілі амаль усе прысутныя, шмат з якіх першы раз прыймалі Камунію пад двума відамі.

А многалецьце сьпявалася сьв. Айцу і ўсім — духавенству і народу.

Пасьля сьв. Службы ўсе сьвятары і харысты сабраліся ў катэдральнай салі на скромны пачастунак.

Чыкаго, 11. V. 1970.

*Д-р В. Р.*

# Вялікодныя звычаі ў Браслаўшчыне

Нашыя старыя звычаі дасягаюць вельмі адлеглых дахрысьціянскіх часаў. Ужо ад палавіны посту пабожныя селяне рыхтаваліся да Вялікадня: да касьцёла хадзілі пільней, пакутавалі, спавядаліся, слухалі навукаў уважна і з жалем за грахі. Нават і нэрвовыя дый задзёрыстыя прыкусвалі язык, каб спаткаць Хрыста на Пасху ў згодзе з Богам і з людзьмі.

*На Вербніцу,* хто толькі мог, сьпяшаліся ў касьцёл з вербачкамі: на памятку, як у Ерусаліме слалі пальмы на дарозе Хрыстовай, так у нас кідалі «каткі» з вербачак пад ногі сьвятару, які йшоў у працэсіі. І на Вербніцу ў нас ужо пахла вясной, а ў душу ўступала большая бадзёрасьць і энэргія. *Вялікі Панядзелак:* Гаспадар меў поўныя рукі работы — ішла шчырая прачыстка ля хаты, ля будынкаў і на двары, а гаспадыні ў хаце бракавала яшчэ дзьвюх пар рук. Агульны рух быў падобны як на фронце перад бітвай. Багаты ці бедны — аднолькава клапаціўся, каб адзначыць Вялікдзень лепш чым усе іншыя сьвяткі! Рыхтаваліся каўбасы, пірагі, яйкі і ўсё іншае, а з хрэнам была цэлая гісторыя! Мая мамка загадзя была стурбавана, ці зямля адпусьціцца і ці хрэн будзе ядраны, бо трэ было дагадзіць — ня так сабе, як суседзям, якія традыцыйна чакалі хрэну і прыймалі яго, як сьвяточны падарунак.

*Вялікі Аўторак:* трэ, як звычай кажа, паехаць на закупы — ці ежы, ці адзежы — аж у Браслаўе, бо блізкая Слабодка — з крамкамі Шлёмы і Ёські — не маглі даць большага выбару тавараў на такое вялікае Сьвята! Ну, і належыла прыбрацца, асабліва маладым, каб закасаваць іншых ці не папусьціцца, — дык дзяўчаткі красаваліся, як макаўкі ў гародзе, а хлапцы... (можа, як крапіва?). — Аж старым было заздросна глядзець на моладзь і ўспамінаць сваю мінулую маладосьць!

*Вялікая Серада:* пякуцца пірагі, пасьля хлеба — бабкі — з макам і без маку, і з дзюркамі і бяз іх, з радзынкамі, з шафранам або з цукровай пенай са сьметанай, што я найбольш любіў!...

*Вялікі Чацьвер:* што называлі «Чысты», бо рабілася генэральная чыстка ў хаце: мыцьцё сталоў, лаваў, зэдлікаў і ўсяго-ўсялякага! Хто змог і быў вольны, абавязкава сьпяшаліся да касьцёла на важнае набажэнства, калі змаўкалі званы і арганы і званочкі, а замест званеньня ляскалі ў драўляныя кляпалы.

*Вяліка Пятніца:* работа дома больш-менш сьціхала, а ўсе стараліся трапіць раней у касьцёл на асаблівае набажэнства, калі разважалася пасія — пакута-мука і «жарсьці» Хрыстовыя, што цярпеў за нас аж да сьмерці крыжовай! Усе былі глыбока праняты да болю ў сэрцы і перажывалі ў думках сьмерць і пахаваньне Хрыста, Бога нашага!.. А ў хаце — ані сьмеху, ані пустое гаворкі, дый — паводле звычаю гэтага дня — ўсе раней ішлі на супачынак.

*Вялікая Субота:* сяньня ўжо няма іншай турбацыі, як гатаваньне і маляваньне яек дый рыхтаваньне кошыка на «сьвянцонку», дзе складаліся галоўныя часткі сьвяточнага стала — яды сухой — да асьвячэньня пасьля набажэнства ў першы дзень раніцай — пасьля «Рэзурэкцыі». Але большай часткай людзі загадзя прыносілі да касьцёла «сьвяцонку» ў суботу: фармавалі цэлыя партыі — гурткі народу, а і падросткаў, якія раскладалі вонках касьцёла ў кошыках ці ў хусьцінках сваё дабро: ксёндз выходзіў, маліўся, багаславіў і акрапляў усё сьвятою вадой.

*І ў Суботу* рана пасьвянчаўся ля касьцёла агонь, а ў касьцеле вада. Ваду, ведама, бралі ўсе і асьвянчалі самі дамы і ўсе закуткі ў будынках, каб ачысьціць духова і сябе і нават скацінку перад такім Сьвятам! Агнём запальваліся ўсе лямпачкі і сьвечкі ля Сьвятога Гробу і на аўтары.

*І ў Вялікую Суботу,* пасьля вячорных набажэнстваў, некаторыя вернікі аставаліся на ўсю Сьвятую Ноч, молячыся і сьпяваючы набожныя песьні. І пры гробе стаяла вайсковая варта, як памятка той варты, якую ставіў варожы стан жыдоўскі, што пільнаваў запячатаны Гроб Хрыстовы.

Нарэшце а шостай гадзіне раніцай касьцёл у Слабодцы быў перапоўнены народам, а сьвятар вынасіў з Гробу Найсьвяцейшы Сакрамант і абносіў каля сьвятыні тройчы, пачаўшы песьню: «Вясёлы дзень для нас настаў»: народ, падхапіўшы, сьпяваў далей: «Якога цэлы сьвет жадаў. Сяньня Хрыстос з Гробу паўстаў, Аллелюя-Аллелюя-Аллелюя!!!» А слабодзкія тры слаўныя званы так радасна званілі, што ня толькі вяселле абуджалі ў душах, але і гварантцыю вечнага шчасьлівага жыцьця з Богам: у той хвіліне чалавек забываўся аб усіх прыкрасьцях, што бывалі ад несправядлівага чалавека. І ў той-жа хвіліне наш бедны і спрацаваны селянін слухаў з чыстым сэрцам Божай Службы — шчасьлівы і вольны, — ня ў тым, што ня быў у вязьніцы, але свабодны ад усялякага духовага прыгнёту, бо верна спаўняў Божыя прыказаньні і нават касьцельныя за час Вялікага Посту. А вось сяньня-ў Дзень Вялікадня — сьпяшыў з радасьцяй гаспадар дамоў, пад свае бацькаўскія стрэхі, разгавецца са сваей сямейкай, а найбольшае багацьце і радасьць — гэта было чыстае сумленьне і згода.

Традыцыя разгавецца вялікодным яйком была сымбалям надзеі на Паўстаньне з Мёртвых: як з яйка, агрэтага цяплом маткі, паўстае новае жыцьцё, так Хрыстос, працярпейшы за грахі людзей, паўстаў з Гробу жывы і радасны «сядзіць праваруч Бога Айца». А людзям сказаў: «хто верыць у Мяне, жыць будзе навекі!»

Нашыя людзі ня былі багатыя, але ўсё-ж, хоць некалькі разоў у год маглі павесяліцца за сталом лепш ураджаным: гэта ў вялікае сьвята, ці на вяселлі, дык і не наракалі на недастаткі. А чакалі такіх днёў, асабліва маладыя, якія асобнымі забавамі дапаўнялі сьвята. На Вялікдзень зьбіраліся па хатах і білі яйкі: хто быў зручнейшы, ўмеў дабраць самае моцнае і абыграць іншых. Або качалі яйкі на спэцыяльных латках.

І к' Вялікадню стаўлялі «казлы» на калыханкі: гэта давала нямала радасьці ўсей моладзі, і найбольш дзецям. Дый згаварываліся з першага дня на другі ісьці ў валачобнікі — сьпяваць: «Вясёлы нам...» пад вокнамі добрых людзей, якія абавязкава дарылі і адплачваліся яйкамі ці чым іншым.

*Другі дзень:* цэлы дзень гасьцілі — суседзі, родныя, прыяцелі... А моладзь ладзіла ігрышчы на цэлую ноч.. Бо трэба-ж было і адпачыць і нагулядца, каб смаглей пасьля працаваць і дружней жыць з другімі!

*Б. Прытыцкі*

Эльмгурст, Нью Ёрк.

## *З беларускага жыцьця*

### УГОДКІ 25 САКАВІКА Ў ЛЁНДАНЕ

Галоўная Управа Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі ладзіла ў нядзелю 22 сакавіка прыняцьце з нагоды 52-іх угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР. Прыняцьце адбылося ў вялікай залі школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане. Было прысутных каля 100 гасьцей розных нацыянальнасьцяў. Прывітальнае слова сказаў Старшыня ЗБВБ сп. Павал Навара. Адказаў на прывітаньне Старшыня Ангельска-Беларускага Таварыства сп. Обэрон Гэрбэрт.

КУРС БЕЛАРУСАВЕДЫ

У аўторак 7 красавіка сп. Гай Пікарда, сакратар Ангельска-Беларускага Таварыства, прачытаў лекцыю на тэму «Права спадчыны паводле беларускага звычаёвага права», апіраючыся пераважна на матар'ялах з Меншчыны, Магілёўшчыны і Смаленшчыны.

У аўторак 5 траўня сп. Джэймс Дынгейл з Рэдынскага Унівэрсытэту меў лекцыю «Філён Кміта (1530—1587) і ягоныя О т п і с ы». Дакладчыку ўдалося сабраць шмат матар'ялаў пра аднаго з найболш цікавых і маляўнічых людзей Беларусі XVI стаг., які аднолькава добра ўмеў валодаць мячом і пяром.

Лекцыя сп. Дынглей была апошняй у праграме 4-га курсу беларусаведы, наладжанага ў Лёндане Ангельска-Беларускім таварыствам.

«ЖУРНАЛ БЕЛАРУСКІХ СТУДЫЯЎ»

Выйшаў з друку № 4 «Журналу беларускіх студыяў», які выдаецца ў ангельскай мове ў Лёндане Ангельска-Беларускім Таварыствам. Зьмест «Журналу» складаецца з у с п а м і н а ў Тодара Еўлашэўскага (1546—1604) у беларускім арыгінале і ў паралельным перакладзе на ангельскую мову, зробленым а. А. Надсонам. Такім чынам гэты выдатны твор раньняй беларускай літаратуры стаўся ўпершыню даступным для шырокіх колаў чытачоў у англамоўным сьвеце, якія не ведаюць беларускай мовы. Зьмястоўны ўступ і шматлікія аднатацыі да тэксту маюць шмат цікавых вестак з гісторыі Беларусі другой паловы XVI стагоддзя.

Журнал мае таксама багаты аддзел рэцэнзіяў і хроніку з беларускага жыцьця. Цана паасобнага нумару выносіць 10 шылінгаў без перасылкі, 11 з перасылкай. Можна выпісаць цераз Рэдакцыю «Божым Шляхам».

# *З лістоў у рэдакцыю*

АД РЭДАКЦЫІ: Дзякуем усім Дарагім Прыяцелям, якія ласкава прыслалі прывітаньне, злучыўшы разам нагоды «Хрыстос Уваскрос!», 25 Сакавіка і 80 ўгодкі нашага рэдактара. Тут не магчыма пералічыць кажнага асабіста, бо й не жадаюць адны, а другія проста рады прыхавацца, (паводле лішняе нашае скромнасьці!) ды яшчэ іншым гэта ўсёроўна . . . І яшчэ дзякуем тым, што, карыстаючы з нагоды, прыслалі падпіску на «Божым Шляхам» і ахвяры на Дом Бібліятэкі і Музэю ў Лёндане

Тут успомнім некаторыя выняткі з лістоў, цікавыя для нашых Чытачоў . . .

*

ШВЭЦЫЯ—ШТОКГОЛЬМ: Шчыра дзякуем Вам за «Божы Шлях»! Просім прыслаць 20 штук экстра і нумары Я. Савіцкага «3-яя вайна і канец сьвету». Мы грошы Вам вышлем. Жыве Беларусь! Просім, калі ласка, прышліце найноўшых кніг. Дзеля Сьвята Вялікадня і Незалежнасьці Беларусі — прывітаньне. Вам Шчасьця да сьпешнай працы на ніве нацыянальнай і ў жыцьці асабістым!

(Падпісана: *Вітрыска Соціетэт-Беларуская Грамада ў Скандынавіі).*

*

КАНАДА: Цешымся з вашага добрага гумару, аптымізму і маладога настрою, гэта даражэй за ўсё — за ўсялякае багацьце. Жадаем Вам мецъ усё гэта заўсёды. І шмат шчасьця і здароўя!

*Р. і В. Ж—Г.*

ВАШЫНГТОН: На ваша імя выслана 5 даляраў. Ветліва прашу Вас пераслаць іх доктару Пашкевічу (ў Бразылію). *А. А—ч*

*

НЯМЕЧЧЫНА: Вітаем з Сьвятам Вялікадня і з Нацыянальным Сьвятам 25 Сакавіка — усяго найлепшага. Маліцеся за нас. *Сяргей Г.*

*

АЎСТРАЛІА—МЭЛЬБУРН: Прыслана з пажаданьнямі выняткова прыгожая картачка з аўстралійскае прыроды: мядзведзі-коаля, група, так дзіўна зьнята, што нельга надзівіцца!

*

АНГЛІЯ—БРАЙТОН: З прывітаньнем Сьвяточным і спатканьнем у нас хачу прылучыць (на жаль, тады забыўся!) у гэты самы дзень, калі мы радасна разам абедалі, выпадаў дзень майго бацькі Тэафіля, які стаў ахвярай наезду немцаў на нашую зямлю ў 1939. Успомніце яго ў малітвах! *Сяргей Медзянік*

*

ФРАНЦЫЯ: На дзень Імянінаў моц шчырых пажаданьняў, багатых Божых ласкаў, цьвітучага здароўя, сілы духовай і фізычнай і .. смачнага сьвянцонага! *Тарэса М.*

*

ПОЛЬШЧА: Віншуем з днём Анёла. Дай, Божа, ласкаў столькі, каб змог дайсьці да найвы-

шэйшых вяршын дасканаласьці і запаліць агнём міласьці найбольшы лік сэрцаў ... Дзякую шчыра за ўсё зробленае для мяне.

*Антон А—ч (бышшы выхаванак)*

*

АМЭРЫКА—САУТ-РЫВЭР: Акрамя свае беспасярэднае літаратарскае працы для друку, працую астатнім часам таксама над скрыптамі ... сэрыю — Помнікі рэлігіі, гісторыі і мастацтва на Беларусі. Паміж імі й скрыпт пра Вашыя Гальшаны — радзіму маткі Ягелёнаў — пра цудоўны пафранцішканскі касьцёл з надгробкамі падканцлера Паўла Сапегі й ягоных жонкаў, пра цікавы замак пабудаваны апошнім ... *Ю. В.*

*

ФРАНЦЫЯ: Сьпяшаюся Вас паведаміць, што я толькі цяпер атрымала «Божым Шляхам» за студзень-люты 1970, за што Вам шчыра дзякую і ўкладаю зноў 5 франкаў. Бог дасьць, я так яшчэ вышлю, як на чымнебудзь з'эканомлю. Высылаю ў лістох, бо мне за цяжкая цэрэмонія на почце, дый хварэю на ногі: аднак высылайце, а я не астануся ў даўгох. Захапляюся Сьвятою Зямлёю, (што пішацца ў «Божым Шляхам»): Шчасьлівыя людзі, што могуць наведаць такое цудоўнае мейсца, дзе хадзіў Сам наш Хрыстос!

З сэрдэчнай пашанай *Т. Ш.*

*

АЎСТРАЛІЯ—АЛЬБАНЫ: Нейк даблудзіў «Божым Шляхам» аж сяньня — (3. IV. 1970). Я ніколі не ўяўляў сабе, што мой ліст, які я пісаў асабіста, Вы замесьціце. Перасылаю Вам перахаваныя лісты: няхай у Вас ляжаць у архіве! — Ня ведаю прычыны, чаму Вы зьмянілі назву майго артыкулу? Але Вам відней ... І вельмі мне дзіўна, чаму «бос» Вы паставілі ў дужках «гаспадар»? — «Бос» — гэта наглядчык пры работніках, а гаспадара на чыгунцы няма, бо чыгунка дзяржаўная, так што гаспадаром ёсьць цэлая дзяржава ... *К. Ч.*

*

НЬЮ ЁРК: Страйк на поште не дазволіў своечасна злажыць Вам найлепшыя жычэньні з нагоды вашага 80-годзьдзя жыцьця, а таксама павіншаваць Вас і усіх нашых супольных прыяцеляў з Вялікаднем. — «ХРЫСТОС УВАСКРОС!» — А ВАМ, Ойча, ад душы жадаю сілы і здароўя працаваць гэтак плённа на грамадзкай ніве, як Вы працавалі ... Высылаю ў дзень 25 Сакавіка ў «парожнюю міску дарагога рэдактара $ 25.00-сьціплы «Монэй ордэр», (хоць пошта нібыта працуе, але ўсё-ж грошы, дый яшчэ чужыя, баюся пасылаць у лісьце). Грошы далі з прывітаньнем ... *Я. К.*

АЎСТРАЛІЯ—СЫДНЭЙ: Беларусы вялікай грамадой сабраліся дня 30 сакавіка у ва Украінскім Народным Доме, каб урачыста адсьвяткаваць 52-ія угодкі незалежнасьці Беларускае Рэспублікі. Беларускі сьцяг, украінскія эмблемы і прыбраныя сталы надавалі урачысты і мілы выгляд.

Акадэмію адчыніў уступным словам Старшыня Белар. Аб'еднаньня інжынер М. Каранеўскі, які перанёс прысутных думкамі у наш родны край, дзе беларускі народ ня мае грамадзкай, нацыянальнай і палітычнай свабоды. Наступна сп. А. Качан прачытаў рэфэрат аб гістарычных падзеях, зьвязаных з Актам 25 САКАВІКА, змаганьнем за яго і наступнай расейска-бальшавіцкае акупацыі. Хвілінамі прысутныя гатовыя былі плакаць, калі прэлегент успамінаў аб тысячных ахвярах сталінскага тэрору. Пасьля сп. Качан закрануў нашыя праблемы на эміграцыі, як арганізацыя нашых народных дамоў, таварыстваў, прэсы, а перадусім куплю дому на Беларускі Музэй ім. Ф. Скарыны у Лёндане, як памятку аб нашым вялікім вучоным і роляй нашага народу у пашырэньні пісьменнасьці на усходзе Эўропы. Прысутныя, выслухаўшы, адозву, адабрылі пачын беларусаў у Лёндане і у меру магчымасьці прыракалі прыйсьці з помаччу.

У далейшым др. Я. Малецкі даў агляд аб жыцьці і палажэньні нашых сялян і работнікаў на бацькаўшчыне бязвыходнае палажэньне калгасьнікаў, прыпісаныя да калгасу, пазбаўленыя свабоды і транспорту, а толькі увосені прыносяць на хрыбце мяшок «шашуты» — зернавых ды пару пудоў бульбы. 10—20 рублёў рэдка калі дастаецца калгасьніку. Людзі памёрлі-б з голаду, калі-б шут-Хрышчоў не даваў ім зямлі на гароды, дзе днямі-начамі нашыя, як кітайцы, капаюць лапатамі ці гачкамі зямлю, каб вырасьціць гародніну і пракарміць курачку, за што таксама трэба плаціць падатак. Пра аўтамабілі ці матацыклы для народу й мовы быць ня можа! У дабрабыце жыве толькі новая кляса партыйнай плютакрацыі. На падставе вестак з прэсы, а таксама і кітайскіх фільмаў, прэлегент інфармуе, што Кітай імкнецца да вайны з Саветамі, каб адабраць ад «чырвоных цароў» акупаваныя часткі Сібіру. Нарэшце ішла гутарка, пераплятаная тостамі, песьнямі і народнымі прыпеўкамі-рэцытацыяй сп. А. Ліпскага. Між мільмі гасьцьмі былі украінцы — сп. М. Сьвідэрскі з жонкаю.

Удалы падбор страваў ды іх нязвычайны смак прысутныя заўдзячалі Сп-ням Лужынскай, Олрайт, Каранеўскай і Хаванскай.

Урачысты настрой, прыемны вечар і парадак — усё прайшло так міла, што прышлося шкадаваць, як некаторыя беларусы прапусьцілі такую слаўную Акадэмію?

*Я. Лаўрыновіч*

## Вечная Памяць!

**У часе, калі гэты нумар быў ужо ў друку, рэдакцыя «Божым Шляхам» атрымала сумную вестку, што ў пятніцу 29 траўня памёр у Парыжы Старшыня Рады БНР, сп. МІКОЛА АБРАМЧЫК. Амаль усьлед за гэтай весткай прыйшла другая аб сьмерці ў Нью Ёрку 12 чэрвеня Яго Дастойнасьці Архіепіскапа ВАСІЛЯ ТАМАШЧЫКА. Рэдакція «Божым Шляхам» далучае свой голас да малітваў усяго беларускага грамадзтва, каб Усявышні даў гэтым двум вялікім людзям вечны адпачынак і ўзнагароду, на якую яны заслужылі сваім жыцьцём і самаадданай працай для дабра іншых, а таксама хоча выразіць свае шчырыя спачуваньні Спадарыні Ніне Абрамчык і сыну Альгерду з прычыны іхняй балючай страты.**

## *З нашае мінуўшчыны, (1832)*

# СЬПІСАК

Касьцёлаў і капліц лац. абраду, а такжа ўніяцкіх цэркваў, якія знаходзяцца ў раёне Пінскага Дэканату (Пінскай Благачыніі) і недалёка ад яго.

| *Нумар* | *Мейсца* | *На якой адлегласьці ад нашых (праваслаўных) цэркваў.* *Назва царквы* | *Колькі вёрст* |
|---|---|---|---|
| | *А. Касьцёлы ў горадзе Пінску* | | |
| 1 | Францішканскі парахвіяльны | | |
| 2 | Кармэліцкі манастырскі | | |
| 3 | Дамініканскі манастырскі | | |
| 4 | Бэрнардынскі манастырскі | | |
| 5 | Каммуніцкі манастырскі | | |
| | У *Пінскім павеце* | | |
| 1 | У Гарадзішчы Бэнэдыктынскі манастырскі | Ад Купяніцкай | 3 |
| 2 | У мястэчку Любашэве Піярскі манастырскі | Ад Бароўскай | 28 |
| 3 | У мястэчку Любашэве Капуцынскі манастырскі | ,, ,, | ,, |
| 4 | У мястэчку Лагішыне парахвіяльны | ,, ,, | ,, |
| 5 | У мястэчку Пагосьце парахвіяльны | ,, ,, | ,, |
| 6 | Тут-жа ў двары другі касьцёл | ,, ,, | ,, |
| 7 | У вёсцы Ахове парахвіяльны | Ад Паршэвіцкай | 2 |

| *Нумар* | *Мейсца* | *На якой адлегласьці ад нашых (праваслаўных) цэркваў.* *Назва царквы* | *Колькі вёрст* |
|---|---|---|---|
| | *Б. Рымскія капліцы* | | |
| 8 | У вёсьцы Вялесьніцы пры нашай прыпісной да Латішынскай | Ад Паршэвіцкай | 12 |
| 9 | У Бердунскім двары | Ад Станецкай | 2 |
| 10 | У Сташанскім двары пабудаваная на сьвірне | Ад Навадворскай | 8 |
| 11 | У фальварку Гай | Ад Пінскай | 2 |
| 12 | У Містковіцкім двары | Ад Містоўскай | 1/2 |
| 13 | У Купяціцкім фальварку | Ад Купяніцкай | 1/4 |
| 14 | У Падгацкім фальварку пры нашай прыпісной да Ставецкай | Ад Ставецкай | 3 |
| | Уніяцкія цэрквы ў горадзе Пінску | | |
| I | Дзявочы Базыліянскі манастыр у Пінскім павеце | | |
| 1 | Лешчынскі парахвіяльны манастыр | Ад Пінскай | 1 1/2 |
| 2 | У вёсцы Багданаўка парахвіяльная | Ад Пагостскай | 6 |
| 3 | У вёсцы Завідчыце такая-ж царква, пры нашай прыпісной Містаковіцкай | Ад Містковіцкай | 5 |
| 4 | У вёсцы Хойна парахвіяльная | ,, ,, | 7 |
| 5 | У вёсцы Валятычы парахвіяльная | ,, ,, | 4 |
| 6 | У вёсцы Бучыне парахвіяльная | ,, ,, | 28 |
| 7 | У мястэчку Нобле парахвіяльная | ,, ,, | 20 |
| 8 | У мястэчку Любашэве парахвіяльная | Ад Бароўскай | 28 |
| 9 | Мяст. тымжа Любашэве парахвіяльна | ,, ,, | 28 |
| 10 | У вёсцы Куціп парахвіяльная | Ад Містковіцкай | 27 |
| 11 | У вёсьцы Невель парахвіялная | ,, ,, | 20 |
| 12 | У вёсцы Храпіне парахвіяльная | ,, ,, | 30 |
| 13 | У вёсцы Локніцы парахвіяльная | ,, ,, | 30 |
| 14 | У вёсцы Жытцы парахвіяльная | ,, ,, | 7 |
| 15 | У вёсцы Дубой парахвіяльная | Ад Паршавіцкай | 7 |
| 16 | У вёсцы Кашэвічах парахвіяльная | Ад Ставіцкай | 3 |

У Пінскае Духоўнае Праўленьне
Пінскага Сьвятара Дзекана (Благачыннага)
Івана Маркоўскага

Рапарт

Пры гэтым маю гонар падаць у-ва ўспомненае Праўленьне Сыпісак Касьцёлаў і Капліцаў Рымскіх а такжа Уніяцкіх Цэркваў, якія знаходзяцца ў раёне Пінскага Дэканату (Благачыньня) і паблізу яго.

Нум. 10-ы 1832 году, Сакавіка 5-га дня.




Нашых чытачоў напэўна будзе цікавіць, у якім стане знаходзіцца цяпер Беларуская Бібліятэка, Музэй і Архіў у Лёндане?

Вось некалькі выясьненьняў:

Дом ужо куплены, але нявыплачаны! Таму ў далейшым зьвяртаемся да ўсіх суродзічаў з просьбай, каб дапамагалі сваімі ахвярамі выплаціць даўгі і зрабіць належны рамонт.

Дагэтуль мы змаглі аднавіць пакоі, увесьці цэнтральнае аграваньне, зьмяніць старыя электрычныя правады і палажыць салідны дыван у салі-чытальні, ахвяраваны сп. Я. Д.

Чакаем на віноль для падлогаў і на полкі для кніжак. Тады пачнём пераносіць кнігі і архівы ў новы будынак.

Дзякуй Богу, што з усіх старонак сьвету адгукнуліся беларусы на наш заклік і паволі прысылаюць ахвяры!

Вядзецца асобная кніга ахвяраў і ахвярадаўцаў. Мы перакананыя, што ў будучыні нашыя нашчадкі ацэняць наш пачын і ахвярнасьць нашых патрыётаў.

Апошнім часам павялічыўся наш Музэй вельмі цэнным набыткам: мы прыдбалі яшчэ адзін аўтэнтычны слуцкі пояс і адзін лацінскі арнат пашыты са слуцкіх і гродзенскіх паясоў. Таксама прыбыло ў нашую Бібліятэку шмат цэнных кніжак, але аб гэтым паінфармуем пазьней нашых чытачоў і больш сыстэматычна.

Просім усіх тых, хто яшчэ не адгукнуўся на наш заклік, прыслаць сваю ахвяру, а таксама прысылаць кнігі, музэальныя аб'екты, архіўныя дакуманты, фатаграфіі і т. п.

Цяпер ужо маем для ўсяго гэтага адпаведнае мейсца, знайдуцца людзі і сродкі на перахаваньне нашых нацыянальных скарбаў, абы толькі кажны з нас выканаў у меру сваей магчымасьці свой грамадзкі абавязак.

За Управу Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны

*Б-п Чэслаў Сіповіч*

---

## ДУМКІ ДЛЯ РАЗВАГІ

Калі справядлівасьць будзе раз адкінена, дык чым стануцца дзяржавы, як не разбоем?

(Сьв. Аўгустын)

✳

Олігофрэнік — дзіця ў вельмі недаразьвітым розумам.

Вялічыня народу мерыцца ня тым, што ён зрабіў для самых найлепшых і здольных сыноў, але тым, што зрабіў для найслабейшых і для найбольш патрабуючых апекі.

✳

Хрыстос ня вымагае ад нас аніякіх вялікіх учынкаў, а толькі самаадрачэньня і ўдзячнасьці.

(Сьв. Тарэса)

Чалавек чакае ад другога 100 разоў больш, чым сам даць можа, а ад зямлі чакае таго, што толькі дае неба.

(Папа Ян XXIII)

✳

Чалавек расчараваны ў сваіх надзеях мсьціцца на сваіх бліжніх.

✳

Хто не працуе, той ня можа быць шчасьлівым.

Ухіленьне ад працы — модная хвароба.

Таямніца паводзінаў: працаваць з ахвотай.

Што будзе, калі спозьнішся да неба? Хоць на хвілінку?..

Акуратнасьць пачынаецца з самай раніцы.

# Кітайская легенда аб шчасьці

Прыгода ўся была ў Кітаі —
Даўно. — Ня помніць аніхто! —
А толькі казка ўспамінае. —
Было вось што:

Мець шмат сыноў — вось што ў Кітаі
Лічылася найбольшым шчасьцем —
Пра гэта мусіць кажны знае?) —
Легенду мусіў нехта скласьці...

*

Жыў гаспадар — сьвяты, на дзіва:
Як уставаў перад зарою,
Дык працаваў усей парою,
Як вол, так шчыра-справядліва!

А жонка, як мурашка, ў хаце;
А муж штодзень-у-дзень на полі:
Сынкоў дванаццаць меў багацьця —
Такое шчасьце з Божай волі!

Бяды даволі там хапала
На ўсю шчасьлівую сям'ю:
Душа, хоць кажна працавала,
А кажны долю меў сваю.

Ну, й дарасталі ўсе сынкі,
А старшым двум пара жаніцца:
Закон у краі быў такі,
Што трэ' багацьцем падзяліцца.

Дык бацька ўсіх сынкоў заклікаў
І пасадзіў іх, як былі,
Паводле ўзросту, веку й ліку,
Наўкола — проста на зямлі.

Багаславіў, сказаў навучку —
Асобна — кажнаму у сьлед:
Аддаў, што меў, адразу ў ручку
І распусьціў на цэлы сьвет!

Апошні — Чанг. Яго любіў
Найбольш: паслушны быў айцу,
Дык бацька даў — (багаславіў) —
Асла, дзьве куркі і аўцу!

*

«Што мне рабіць?» Чанг іх пытаў:
«Чым вас карміць?» — Чанг плакаць стаў —
Так бедавалі без канца —
Асёл, дзьве куркі й аўца.

Шукалі шчасьця — не знайшлі,
Хоць турбаваліся нямала, —
І так да выніку прыйшлі, —
«Людское шчасьце — нятрывала!»

Аж Чанг пачуў, што у Кітаі
Надзею можна мець яшчэ,
Бо на паўдні, у горах Т'аі,
Жыве філёзаф Мэй-Лянг-Тсэ.

Хто да яго хоць раз дарвецца,
Увойдзе з ім у цесну дружбу
І верна споўніць трудну службу,
Навек шчасьлівым астанецца!

*

Так «кветка шчасьця» зацьвіла —
Аж Чанг падскочыў-засьпяваў:
Аўцу і курак і асла
І абыймаў і цалаваў,
Сьлязой гарачай абліваў
І ўзяў... і ўраз прадаў!

Сабраўшы грошы, Чанг з размахам
Пусьціўся доўгім, здрадным шляхам
У Гімалаі,
У горы Т'аі —
Аж на паўдзён! —
Ішоў аж семдзесят сем дзён!...

Блудзіў, пытаўся і марыўся,
Сьпяваў і плакаў і маліўся: —
Знайшоў!
І ў ногі пакланіўся:
Пытаў пра шчасьце хлопчык Чанг
У філязофа Мэй-Тсэ-Лянг...

Філёзаф важыў ўсе прычыны,
Сядзеў і думаў тры гадзіны:
Казаў пасьціць і ўсе дзён пяць
У горах Т'аі прагуляць.
«Тады, як прыйдзеш, у той раз
Я дам адказ!»

Вярнуўся Чанг, пытае шчасьця.
Філёзаф кажа: «Трэба ўкласьці
Нямала працы, шмат трудоў, —
Ці ты гатоў?»
«Прыходзіць лета: ты ў сьпякоту
Пральеш тут досыць сьлёз і поту».
Чанг кажа: «Маю я ахвоту!»

*

І так прыйшлі бяз перашкоды
Да мілай згоды:
Філёзаф кажа: «Ну, мой друг,
Ідзі касіць мой слаўны луг!
Працуй — ня стой! —
Прытым мой дух
Ідзе з табой...

«Як нітку долі будзеш прасьці,
Здабудзеш шчасьце:
І час твой хутка праміне
І шчасьце ня міне!..»

Так Чанг з касой у такт хадзіў
І ўсіх касцоў апераджаў! —
Каса ўпрызалася ў траву —
Аж зрэзаў жабе галаву!

Пусьціў вужаку без хваста —
Аж спудзіў зайчыка з куста!
    Касой як камень шмаргануў —
    Аж у вачах агонь бліснуў!..

Чанг кажны раз усё пытаўся,
Калі з Мэй-Лягнам дзе спаткаўся,
Ці ўдзень, ці ўвечар, або рана
Пра тое шчасьце абяцана. —

    Мэй-Лянг-Тсэ ўздыхаў глыбока,
    Казаў: «Ах, шчасьце недалёка!»

Раз Чанг прад ім скланіўся нізка,
Дык Лянг сказаў: «О, шчасьце блізка!»

*

    Касцоў таўклося з поўкапы,
    Што шчасьця стойка там шукалі
    І друг-другіх апераджалі,
    Як тыя бойкія снапы,
    Што так сыпяшаюцца на воз,
    Каб гаспадар дамоў іх вёз!..

І так ішла работа шпарка,
І так расла ўся гаспадарка;
А Лянг хваліў іх кажны вечар,
А ў Гімалаях веяў вецер...

    А ўсе глыбока мелі ў думцы,
    Што Лянг быў мудры, як Канфуцы:
    А мо' й мудрэйшы быў яшчэ,
    Чым сам філёзаф Ляо-Тсэ?!

*

Чанг працаваў трывала й цягла:
Капаў канавы гладка й смагла,
Праводзіў сьцежкі і дарожкі,
Пакуль служылі ручкі й ножкі...
За ім усьлед ішла ўся штуба —
Ажно пабачыць было люба!

*

    Пайшоў дальш Чанг ў Каменны Лог:
    Ён там у працу як налёг,
    Меў рукі да крыві пабіты!
    Шчапаў із мармуру там пліты,
    Каб у палацах слаць падлогі
    І высьцілаць наўкол дарогі.

Палацы ўсе у Мэй-Лянг-Тсэ
Былі, на дзіва, так прыгожы,
Што апісаць ніхто ня можа,
Хоць меўбы талент у руццэ!

    Бо Лянг любіў свае парадкі:
    Яго палацы й кажна дзела
    У шчасьці, ў радасьці блішчэла. —
    О, Лянг хваліў дарожкі гладкі!

Чанг працаваў чатыры тыдні,
Тры месяцы і трыццать тры дні!..

*

    Бядак аднойчы так змарыўся,
    Што аж з апошняй сілы зьбіўся! —
    Як на пасьцелі ніцма лёг,
    Ня мог паднясць ні рук, ні ног...

Бо праца так яго зламала, —
Душа у целе ледзь трывала:
    Яшчэ надзея, хоць нясьмела,
    Як тая іскра ў сэрцы тлела.

А думкі, як на моры хвалі,
То налятаці — адплывалі:
Хадзілі дрыжыкі па целе,
Ў вачах агоньчыкі мігцелі...

    А, хоць ён ледзь прытомны быў,
    На яве ўсё-ж пра шчасьце сьніў.

Жыцьцё успомніў і дарогу,
Каменну працу і трывогу:
А толькі моцы меў яшчэ,
Каб зара клікнуць Мэй-Лянг-Тсэ,
Каб запытаць пра тое шчасьце:
«Калі, калі-ж яно мне дасца?»

А Лянг казаў: «Ах мой сыночак,
Мой залаценькі галубочак!
Якраз-жа шчасьце (дзе- падзецца?)
Тебе ў душу вось-вось кладзецца!...
    Бо тваё шчасьце не ўцячэ —
    Табе кажу я, Лянг-Мэй-Тсэ!

*

Чанг усьміхнуўся так прыгожа,
Вясёла, як дзіцятка можа —
Аж вочы шчасьцем зігацелі
І паў бяз духу на пасьцелі...

    Ляжаў так ціха так спакойна,
    Злажыўшы накрыж ручкі стройна,
    Так як жывы, ня даўшы знаку,
    Сказаць хоць нават Лянгу дзякуй!

*

Чанг гараваў, як жыў даволі,
А шчасьця?.. не, ня меў ніколі!
А, як прыйшло галоўку скласьці,
Сканаў у поўным райскім шчасьці.

Пэнгрос, Валія.
24. I. 1970.

*а. Я. Г.*

# Паважныя жарты

АБ МЕСЯЦЫ:

«Месяц важнейшы ад сонца, бо сонца сьвеціць удзень, калі і так сьветла; а месяц — уначы, калі зусім цёмна. (Так казаў Кузьма Пруткоў)

*

ПРЫБАЎКА ДА БЕЛАР. СЛОЎНІКА:

«Прылуніцца» і «адлуніцца»: астранаўты трапілі на месяц.

«Месячына»: грунт прывезены з месяца.

«Лунчыкі»: астранаўты на месяцы.

«Луналюбы»: тыя, што загадзя купляюць пляцоўкі на месяцы.

«Лунаскробы»: савецкія ракеты, якія мелі наскрабаць месячыны, але там разьбіліся.

«Лунафобы»: нэрвовыя людзі, што ня могуць заснуць, як сьвеціць месяц.

*

ГУСЬ да КУРЫЦЫ: — Што ты, кума, усё лятаеш з плоту на плот?

КУРЫЦА: — Хачу ўцеч з Сав. Саюзу, бо тут норма «зьнесьці ў год 365 яек, а я-ж хачу і паквактаць.

ГУСЬ: — Дзіўная ты! Мне качка казала, што яна чула па радыё: заграніцай яшчэ горш. Там зара цябе зарэжуць — мяса зьядуць, з касьцей зробяць шкілет для школьнага ўжытку, а са скуры з пер'ямі зробяць чучала для музэю.

*

НА ГЭНЫМ СЬВЕЦЕ:

Два апошнія цары спаткалі на прагулцы двух дыктатараў: Леніна і Сталіна. Цары пытаюцца:

— Скажыце, калі ласка, ці нашая сьвятая Расея і далей ёсьць вялікім царствам?

— О, так! І далей...

— А наш рас. народ таксама пануе над іншымі, як украінцы і беларусы?

— Дый таксама, бо мы лічымся «старшымі братамі».

— Брава! А ці палітычных таксама зсылаеце ў Сібір?

— І яшчэ сто разоў больш!

— А ці п'юць людзі гарэлку, як у наш час?

— О, п'юць куды больш і мацнейшую! У вас была нармальная на 38%, а ў нас на 40%.

(Тут цары засьмяяліся):

— Дык ці варта было рабіць рэвалюцыю, калі толькі на два працэнты паднялася культура?

Дыктатары сказалі:

— Мы самі ведаем, што ня варта, але такая на сьвеце пайшла мода...

---

ЗЬМЕСТ



---

Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.